Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

25 красавіка 2003 года

№ 17 (418)
Выходзіць па пятніцах

плюс Тэлетыдзень




## Навіны рэгіёну



*"Рэгіянальная газета" віншуе са святам Вялікадня ўсіх праваслаўных нашага рэгіёну і іх сем'і і зычыць ім вясёлых святаў!*

### Дарогамі жыцця

**ВАЛОЖЫН.** 41-м канцэртам завяршылася рэспубліканская акцыя "Чарнобыльскі шлях "Дарогамі жыцця".
У райцэнтры выступілі ансамбль "Песняры", народны артыст СССР Ігар Лучанок. 39 дзяцей, якія стаяць на ўліку па захворваннях сардэчна-сасудзістай сістэмы, і дзеці-інваліды Чарнобыля атрымалі вітаміны і цацкі.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Карупцыя

**МЯДЗЕЛ.** На мінулым тыдні супрацоўнікі Мядзельскага РАУС і Маладзечанскага міжрайаддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй затрымалі старшыню Сырмежскага сельвыканкома. Яму інкрымінуецца атрыманне хабару ад жыхара Маладзечна за станоўчае вырашэнне пытання аб выдзяленні ўчастку пад будаўніцтва ў вёсцы Малая Сырмеж. У справе фігуруе сума ў 400 долараў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Забіла токам

**ВІЛЕЙКА.** 22 красавіка забіла токам 18-гадовага навучэнца Ільянскага сельгастэхнікума М.
Пенсіянерка з Ільі папрасіла двух навучэнцаў тэхнікума замяніць тэлевізійную антэну. Пры выкананні работ антэна дакранулася да праводу высокага напружання лініі электраперадач. Малады хлопец загінуў, другі навучэнец і бабуля трапілі ў бальніцу. Іх стан здавальняючы.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**





# У кожнага свой боль



**На землях нашага рэгіёну жывуць тысячы перасяленцаў з чарнобыльскай зоны. Прайшло ўжо 17 год з чарнобыльскай вясны, калі людзі рушылі з нажытых мясцін. У сем'ях перасяленцаў вырасла новае пакаленне, яны, дзеці, ствараюць на нашай зямлі свае сем'і, часта бяруць шлюб з мясцовымі. Маладыя лічаць гэту зямлю за сваю радзіму, а іх бацькоў пячэ да гэтага часу нясцерпны боль Чарнобыля. Сёння ў нашай газеце – расказ былой работніцы Хойніцкай раённай газеты, а цяпер галоўнага рэдактара "Астравецкай праўды" пісьменніцы Ніны Рыбік аб лёсе сваіх землякоў.**
**Там, у Хойніках, Брагіне, Петрыкаве, Століне, Чэрыкаве і Ветцы, засталася іхняя памяць. Дзесьці ў паўразваленых хатах яшчэ можна знайсці фатаграфіі родных аднавяскоўцаў, якія не паспелі забраць або ў роспачы проста не ўспомнілі, дзе яны могуць ляжаць. А марадзёры ўсё знойдуць. Толькі хіба ім, марадзёрам, патрэбна чыясьці чужая памяць?**

**Мікола ГАЙДУК.**

Фота Уладзіміра БАЗАНА.

## З'явілася ідэя: выратаваць дзяцей і сябе можа толькі пераезд, і чым далей, тым лепш...

Успомнілася «пераездная» ліхаманка канца васьмідзесятых – пачатку дзевяностых, калі ўсе, здавалася, гаварылі аб адным: хто куды паехаў і хто куда збіраецца, дзе перспектывы лепшыя, а дзе – не надта

Напэўна, калі б праўда аб выніках і магчымых наступствах Чарнобыльскай аварыі не замоўчвалася на працягу столькіх гадоў, то і тая інфармацыя, якая хлынула на людзей у часы галоснасці магутным патокам, не была б для іх такой ашаламляльнай, палохаючa нечаканай і не мела такіх наступстваў. А так у многіх з'явілася неадчэпная ідэя: выратаваць дзяцей і сябе можа толькі пераезд, і чым далей, тым лепш. І памчаліся па рэспубліцы ганцы ў пошуках чыстых мясцін і свабоднага жылля...

Першым у Астравец пралажыў сцежку Аляксей Кляменцьевіч Жыляк, тагачасны начальнік аўтабазы "Галоўпалессеводбуд", "дзікай дывізіі", як яе называлі ў народзе. Калі мы з мужам прыехалі сюды "на агледзіны", ён з жонкай, Эміліяй Макараўнай, якая ў Хойніках працавала ў раённым вузле сувязі, прымалі нас у сваёй толькі што атрыманай кватэры, як дарагіх гасцей, хоць у Хойніках мы былі ледзь знаёмы – тады кожны чалавек з Гомельшчыны тут, на чужыне, пачуваўся сябрам, а хайнічанін – то і ўвогуле амаль радня. Дарэчы, Эмілія Макараўна і ў Астраўцы працуе галоўным інжынерам на вузле электрычнай сувязі і гэтак жа карыстаецца вялікім аўтарытэтам і павагай у калектыве. А Аляксей Кляменцьевіч узначальвае дарожнае рамонтна – будаўнічае прадпрыемства, дзе пасля пераезду пачынаў працаваць галоўным механікам. Яго другое скліканне запар выбіраюць дэпутатам раённага Савета дэпутатаў. І ўвогуле, ўзначальваемая ім арганізацыя – адна з найбольш стабільных і паспяховых у раёне.

**Ніна РЫБІК.**

**Чытайце аповяд Ніны Рыбік на 7-й старонцы.**

### Наталля-званар

На Вялікдзень у новай маладзечанскай царкве загучыць урачысты звон. Гэта справа званара Наталлі Вашкевіч.



**2-я старонка**

### Рымдзюны – вёска, дзе жывуць літоўцы

Ёнас Вайчуліс – апошні каваль у Рымдзюнах – беларускай вёсцы, дзе ў хатах і на вуліцах гавораць палітоўску.



**4-я старонка**

### Людзі, якія адвярнуліся ад свету

У Маладзечне каля 7 дзесяткаў кватэр, дзе людзі самі сабе стварылі пячорныя умовы: няма вады, электрычнасці і газу.

**5-я старонка**

■ ПРАФЕСІЯ

# Наталля-званар

**МАЛАДЗЕЧНА. 28-гадовая Наталля Вашкевіч працуе ў новай мясцовай царкве... званаром.**

Маленькай дзяўчынкай маці вадзіла яе ў царкву, што на Старым Месце. Крыху агледзеўшыся па баках, Наташа цягала маці за падол і гаварыла: "Ну, пойдзем ужо". Як звычайная дзяўчынка, Наташа гуляла ў дзіцячыя гульні і хадзіла ў школу. Вельмі любіла танцаваць. Танцы і сталі яе першай прафесіяй. Наталля закончыла культурна-асветніцкае вучылішча, што ў Мінску. Потым выкладала харэаграфію ў адной з Маладзечанскіх школ.

Пасля ўрокаў часта заходзіла ў царкву. Пабыць там, дапамагчы што. Наташа гаворыць, што сюды яе пакліч крыві прывёў: у родзе шмат святароў было. Урэшце яна вывучылася ў Мінскім духоўным вучылішчы на выкладчыцу Катэхізіса і Закона божага. Вярнулася ў царкву. Пакрысе напрацоўвала стаж. У яе ёсць сапраўдная працоўная кніжка, якая захоўваецца ў царкве. Наталля ладзіць экскурсіі для школьнікаў і іншаземцаў. Выкладае ў нядзельнай школе. Прымае прапановы з суседніх паселішчаў, каб яна перадала свой вопыт. Калі ёсць час, ездзіць з выхаванцамі ці адна ў іншыя цэрквы, манастыры. Так яна ездзіла па Залатым коле Расіі, пабачыла Жыровіцкі манастыр. Падчас адной з такіх паездак Наталля пачула, як гучаць званы.

Напэўна, кожны чуў гэты звон, але не кожны, асабліва жанчына, вырашыць навучыцца гэтай справе. 4 месяцы яна аддала вучобе на званара ў Мінскай школе званароў. У адзінай школе для беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў. Паколькі ў Наталлі ўжо была духоўная адукацыя, то яна вывучала толькі тэорыю і практыку звону. Практычныя заняткі праходзілі на Мінскім заводзе "Адменнае ліццё", дзе адліваюць званы. Намеснік дырэктара гэтага завода выкладаў у школе званароў, расказваў пра ліццё. Цяпер Наталля ведае тонкасці званоў.

Тыя, што на нашай царкве (адзіныя на Маладзечаншчыне), прывезлі з Украіны з Кіева-Пячорскага манастыра. Яна зазначае, што мінскія званы больш якасныя. Іх заказвае шмат расіянаў.



Наталля Вашкевіч першы год працуе званаром у новай маладзечанскай царкве.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Звон льюць прыкладна тры месяцы. Ён складаецца з 20% волава, 80% медзі і 1-2% срэбра ці золата. Даўней срэбра ці золата ў выглядзе завушніц, пярсцёнкаў ахвяравалі людзі. Цяпер крыху не так. Не, людзі таксама ахвяруюць. Напрыклад, 30 тысяч рублёў ці 100, 150, 200 долараў – хто чым можа. Увесь спіс тых, хто ахвяраваў, захоўваецца ў царкве. Такім чынам моляцца за іх здароўе. Але і гэтых грошай мала. 1 кілаграм звона каштуе 5-7 долараў. Самы вялікі маладзечанскі звон важыць 300 кілаграмаў. Другі па велічыні – 150. Усяго 9 званоў. Хочуць яшчэ купіць.

Каб званы добра гучалі, іх паверхня павінная быць гладкай. Падчас вучобы Наталля здавала экзамен па 4-х відах звону. А просты чалавек на слых можа адрозніць толькі 2 віды. Моцны доўгі і ўрачысты – святочны, не такі працяглы і моцны – не святочны.

Яна, як ніхто, ведае, што значыць у вушах звініць. Бывала, едзе дамоў у электрычцы і анічога не чуе. Заняткі па звону праходзілі ў закрытым памяшканні. Усе 11 навучэнцаў, з іх – тры дзяўчыны, вучыліся званіць не па нотах, а па схеме. Узрост будучых званароў вагаўся ад 18 (з такога ўзросту прымаюць) да 50 гадоў. Адна з аднакурсніц цяпер вучыцца на юрыста. Наталля ж надзейна стаіць за пультам званоў, які зроблены з металічнага слупка са шчытком з адтулінамі. Калі звоніш, трэба націскаць нагой на металічныя педалі, як падчас ігры на піяніна. Рукі кіруюць вяроўкамі, якія замацаваны да званоў і да шчытка з адтулінамі. Пасля першага звону Наталлю зводзілі са званіцы: так ногі са страху трэсліся. Яна кажа, што як няма настрою, то няма і звону. Таму там, амаль у небе, яна ні аб чым не думае, уся ўвага скіравана на сваю справу.

Потым, на зямлі, глядзіць па відзіку з сёстрамі ва Хрысце духоўныя фільмы, вяселлі, дзе яны прыслужваюць, камеды. П'юць чай, што купілі ў ларку. Маўляў, усе мы людзі. І на дарозе тых, хто бліжэй да веры, яшчэ больш спакусы. "На яе я натыкаюся штодня. Вось, напрыклад, пост, які забараняе шмат што есці. Лічу, лепш яду есці, чым людзей", – гаворыць Наталля.

Ірына РАБУШКА.

■ ЭКАЛОГІЯ

## Чым «накарміў» нас Чарнобыль?

**МАЛАДЗЕЧНА. Што натварыў Чарнобыль?**

Розныя людзі мяркуюць па-рознаму. Аднойчы ў электрычцы пазнаёміўся з чалавекам, які, як і я, прыехаў у Маладзечна з Магілёўскай вобласці.

Жылі яны ля возера ў Краснапольскім раёне. Праз колькі дзён пасля выбуху ў Чарнобылі панаехала на тое возера тэхнікі, мітусіліся вайскоўцы, лёталі верталёты. Служывыя людзі зразумеюць, што там асадзілі на мясцовасць радыеактыўнае воблака.

Прайшоў год. Як дзікія папёрлі расці ў тым месцы грыбы. Мой суразмовец назбіраў некалькі кошыкаў, насушыў і павёз на экспертызу ў Мінск. Там праверылі і сказалі, што ... усё ў норме!

У мяне ўзнікла шмат пытанняў наконт экспертызы. Тым больш, што "супакоілі" чалавека вусна, а ніякай паперкі на рукі не далі. Вядома, што ў самім Мінску супрацоўнік фізічнай лабараторыі кожны дзень даследаваў марлю з форткі сваёй кватэры. У паветры быў увесь спектр выпраменьваннаў рэактара.

Па статыстыцы, жыхары нашай краіны найбольш паміраюць ад хваробаў сэрца і сасудаў. Прафесар Юрый Бандажэўскі даказаў, што гэтыя хваробы ўзнікаюць у тым ліку пад уздзеяннем малых дозаў радыяцыі. Хто можа быць упэўнены ў сваёй бяспецы?

Алег БЯГАНСКІ.

■ СВЕТ КНІГІ

## Новая кніга

**МЯДЗЕЛ. На сайце каталіцкага выдавецтва "Pro Christo" паведамляецца пра тое, што заканчваецца падрыхтоўка да друку кнігі, прысвечанай 550-годдзю парафіі св. Мікалая ў Свіры.**

Друкуецца яна на дзвюх мовах: беларускай і польскай, а называецца "Лёс касцёла – лёсы людзей". У выданні будзе багата гістарычных дакументаў, архіўных і сучасных фотаздымкаў.

Алесь ВЫСОЦКІ.

■ САЦЫЯЛЬНАЯ СЛУЖБА

## Падарунак сацработнікам

**ВАЛОЖЫН. Упраўленне па працы і сацыяльнай абароне райвыканкома набыло на Мінскім мотавелазаводзе 39 веласіпедаў.**

Іх уручаць лепшым сацыяльным работнікам і тым, хто абслугоўвае аддаленыя вёскі раёна. Веласіпеды мяркуюць набыць яшчэ.

Наталля ШТЭЙНЕР.

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

## Хаўрусная крама

За два тыдні перад Вялікаднем у мястэчку Буцлаў залажылася хаўрусная крама усякай драбязы. За гэты час больш сотні людзей апладзілі у хаўрус свае складкі, а ёсць надзея, што хаўруснікоў звялічыцца шмат болі. Шкада толькі, што ў праўленьні хаўруса папала усяго толькі двоя селян, а рэшта пяці сяброў — с паноў і чыноўнікоў, ды такіх, што хоць сходзяцца с селянамі на нарадах праўленьня хаўрусу, але с селянамі-сябрамі не вітаюцца, – як бы чужыя самі сабе, хоць знаюць хто яны такія. Так, па вёсках дык так вядзецца, што "дыліґенцыя" кругом з селянамі суседзіць, але с селянамі сябравaць баранi Бог, – каб хто ні падумаў, што "дыліґенцыя" раўня селянам.

Госьць.

## Варта падумаць

Прыехаўшы у Пасадцы (Віл. губ. Вілейск. пав.) я за адзін год знайшоў тут вялікую перамену. Прышла напрыклад нядзеля, гляджу, спакойна: ня бьюцца, не гаманяць, як заўвычай. Даўно было пакуль не спазнаў прычыны: уся моладзь нашые вёсак выехала у Амерыку.

– Работніка німа дзе дастаць – жаліліся іншые – добраму парабку плацяць 150 руб. на год з гаспадарскай андынарыей і то цяжка дастаць. Дзеўчаты гэтак сама едуць. Проста пустые вёскі зрабіліся...

Варта сурьёзна падумаць аб тым, каб арганізаваць беларускім эмігрантам нейкую помач у Амэрыцы.

Газэта "Наша Ніва". №18 ад 26 красавіка 1913 года."

■ ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

## Лямпачкі і пляцоўкі



**Хто абавязаны мяняць лямпачкі ў пад'ездах?**

Маргарыта Раманенка. Маладзечна, вул.Ф.Скарыны, 14.

**Хто павінны прыбіраць лесвічныя пляцоўкі ў пад'ездах?**

Вадзім Кушнярук. Маладзечна, вул.Міру, 40.

На абодва пытанні адказаў намеснік дырэктара па жыллёвых пытаннях унітарнага прадпрыемства "Камунальнік" **Валерый Віткоўскі**. Што тычыцца першага пытання, то гэта павінны рабіць жыхары. Яны добра сочаць за захаваннем лямпачкі, калі заменяць яе самі. Праводзілі эксперымент: лямпачку ўкруцілі камунальнікі – праз 2 дні яна знікла. Людзі мяркуюць, калі лямпачка дзяржаўная, дык яе і выкруціць можна, яшчэ адну прынясуць. В.Віткоўскі заўважыў, што ў мерах бяспекі самастойна лепш лямпачкі не мяняць. Варта выклікаць электрыка з домакіраўніцтва.

Што тычыцца прыбірання лесвічных пляцовак, то гэта робяць таксама жыхары. Такое рашэнне зацвердзіў больш за 7 гадоў таму назад гарвыканком.

Свае пытанні вы можаце задаць па маладзечанскім тэлефоне 69667.

Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.

■ ПРЭЗЕНТАЦЫІ

## Прэм'ера мюзікла

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні ў Палацы культуры ўпершыню ў горадзе прайшоў мюзікл "Ребята с нашего двора".**

Музыку да песень, якія прагучалі ў мюзікле, напісала маладзечанка, член Саюза кампазітараў Рэспублікі Беларусь **Алена Атрашкевіч**. Над вакалам працаваў выкладчык маладзечанскага музычнага вучылішча **Пётр Туронак**. Яны разам кіруюць эстраднай студыяй "Спяваем разам". Выхаванцы гэтай студыі і ўдзельнічалі ў мюзікле. Усе ролі і песні выканалі дзеці. На прэм'еры былі мясцовыя аўтары песень.

Ірына РАБУШКА.

■ КОНКУРСЫ

## Перамога вілейскіх пачаткоўцаў

**ВІЛЕЙКА. 4 работы вілейскіх школьнікаў з пачатковай школы №6 перамаглі ў міжнародным фестывалі дзіцячай мастацкай творчасці, які праходзіў у Маскве і быў прысвечаны 60-годдзю Маскоўскай бітвы.**

Усяго на конкурс прыйшло работ са 120 гарадоў Расіі, блізкага і далёкага замежжа. Работы вілейскіх пачаткоўцаў уключылі ў каталог з 420 работ. У гэтай кнізе разам з гарадамі Масква, Арэнбург, Арол, Яраслаўль, Мінск, Таронта ёсць і Вілейка.

У каталог увайшлі работы **Надзеі Падгайскай і Соні Пракоф'евай, Каці Козел і Наташы Колбун, Наташы Колбун і Анжалы Жукавень, Улады Таразевіч і Каці Гардзей**. Рыхтавалі іх педагогі **Алена Паўлоўская, Вольга Шаблюка, Ірына Вайда, Тамара Мамай**.

Артур МАКАРАЎ.

■ КАНЦЭРТЫ

## Мясцовыя «зоркі»

**ВІЛЕЙКА. Добрыя водгукі атрымаў канцэрт, які адбыўся 17 красавіка ў Палацы культуры. Праграма складалася з выступленняў вакальна-інструментальнага ансамбля "Парламент" пад кіраўніцтвам Сяргея Скарожанка і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці.**

На сцэну выходзілі вядомыя ў горадзе спевакі, сярод якіх **Сяргей Шкурдзе, Міхаіл Ермаковіч, Сяргей Ількевіч, Леанід Гайчук, Васіль Капцюг, Уладзімір Купрыенка, Ігар Петух, Сяргей Рудніцкі, Казімір Талстыка, Ірына Новік** і іншыя. Вяла праграму **Алена Холадава**.

Практычна ўсе песні, а гэта былі хіты канца XX пачатку XXI стагоддзя, ішлі пад "жывы гук". Па просьбах гледачоў канцэрт будзе паўтораны ў сярэдзіне чэрвеня.

15 мая вілейчане змогуць паглядзець канцэрт з удзелам Ірыны Дарафеевай, а 1 чэрвеня адбудзецца сольнае выступленне ўзорнай дзіцячай эстраднай студыі "Экспромт".

Віталь ПАЎЛОЎСКІ.

■ РЫНАК ПРАЦЫ

# Якую спецыяльнасць выбраць

**МАЛАДЗЕЧНА. Рэгіянальны цэнтр занятасці насельніцтва (РЦЗН) правёў прафесійна-арыентацыйнае мерапрыемства для 11-класнікаў "Выпускнік-2003".**

На сустрэчу са спецыялістамі РЦЗН і прадстаўнікамі мясцовых навучальных установ прыйшлі выпускнікі з усіх школ горада. Галоўны спецыяліст па прафарыентацыі РЦЗН **Надзея Булкіна** сказала, што, каб у выбары прафесіі не памыліцца, варта ведаць свае інтарэсы і схільнасці. А таксама ўзровень ведаў і стан здароўя. І як мага больш ведаць аб будучай прафесіі.

На сталe-стэндзе спецыялісты РЦЗН расклалі інфармацыю, напэўна, пра ўсе існуючыя спецыяльнасці. Сярод іх былі і старыя, як свет, — цясляр і муляр. Гэтыя спецыяльнасці чамусьці ў сёлетніх выпускнікоў выклікалі смех. РЦЗН прапанаваў спецыяльнасці, якім навучаюць у цэнтры. Напрыклад, агледчык-рамонтнік вагонаў, заатэхнік, кветкавод, аўтаслесар, трактарыст. Але сёлетнім выпускнікам больш даспадобы навучанне ў інстытутах, універсітэтах, акадэміях. Ці на крайні выпадак не зусім збітыя, накшталт дэкларанта (работніка мытні), фермера, глебазнаўца, пчаляра.

Часта можна пачуць, што паступіць у навучальную ўстанову значна цяжэй, чым потым вучыцца. Асабліва калі ёсць змяненні ва ўступных экзаменах.

Так, у мясцовых медыцынскім вучылішчы і політэхнічным каледжы ўпершыню экзамены будуць прымаць па 10-бальнай сістэме. Па словах дырэктара медвучылішча **Уладзіміра Апаленіса**, слаба ўяўляецца, як пойдзе нова ўвядзенне ў яго ўстанове. Дыктоўка па беларускай ці рускай мовах, якую будуць пісаць абітурыенты медвучылішча, сёлета будзе агучана з тэлевізара. Раней яна выбіралася на месцы. Праграма па біялогіі значна адрозніваецца, нават ад леташняй, у бок палёгкі. Уладзімір Апаленіс запэўніў, што медвучылішча не закрыецца. Летась заяўка на медыцынскіх работнікаў была ў 2 разы меншая, чым пазалетась. Таму Міністэрства аховы здароўя вырашыла, што варта закрыць некалькі медыцынскіх навучальных устаноў. У гэты спіс трапіла і Маладзечанскае вучылішча. Але пытанне вырашылася станоўча. Толькі прыём навучэнцаў будзе зменшаны. Увогуле, ён зменшыцца на 1300 чалавек ва ўсіх медыцынскіх навучальных установах Беларусі. Напрыклад, у Маладзечанскае медвучылішча сёлета прыйдзе на 60 менш будучых медсясцёр, чым летась.

Сярод навінак у Маладзечанскім політэхнічным каледжы і тое, што па выніках выпускных экзаменаў падрыхтоўчага аддзялення могуць ужо залічвацца на вучобу.

У Маладзечанскім гандлёва-эканамічным каледжы ўвялі дзве новыя спецыяльнасці.

Больш за ўсё 11-класнікаў цікавіла пытанне далейшага працаўладкавання пасля заканчэння той ці іншай установы. Кожны выбірае для сябе будучую прафесію па-розным. Напрыклад, **Кацю Гарановіч** з СШ №11 "цягне" ў педагогіку. Хоча быць дэфектолагам. А **Юля Ганчар** з СШ №14 вырашыла вучыцца на сацыяльнага педагога. Але па абранай спецыяльнасці працаваць не збіраецца. Хоча адвучыцца дзеля адукацыі.

Напярэдадні сустрэчы з 11-класнікамі, аналагічная прайшла і з 9-класнікамі. Політэхнічны каледж і ПТВ іх цікавілі мала. Больш даспадобы прыйшоўся гандлёва-эканамічны каледж. Самае распаўсюджанае пытанне: "Колькі плацiць за вучобу?".

Калі 9-класнікі не паступаюць, то звычайна вяртаюцца ў школу. 11-класнікам складаней. Шлях амаль адзіны – пайсці са школьным атэстатам у мясцовую службу занятасці, дзе ім прысвояць статус беспрацоўнага.

Ірына РАБУШКА.



11-класніцы Юля Ганчар з СШ №14 і Кацця Гарановіч з СШ №11 выбіраюць будучую прафесію на сустрэчы "Выпускнік-2003".

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Леташні рэйтынг найбольш папулярных мінскіх навучальных устаноў (па дадзеных РЦЗН)

### Вышэйшыя навучальныя ўстановы

| Назва ВНУ | Назва спецыяльнасці | Колькасць чалавек на месца |
|---|---|---|
| Беларускі нацыянальны тэхнічны універсітэт (БНТУ) | Праграмнае забеспячэнне інфармацыйных тэхналогій | 25 |
| Беларускі дзяржаўны універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі (БДУІР) | Маркетынг у электроннай камерцыі | 19,2 |
| БДУІР | Эканоміка і арганізацыя на прадпрыемстве | 14,05 |
| Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры | Менеджмент сацыяльна-культурнай сферы | 11,8 |
| БНТУ | Маркетынг | 11,5 |
| БНТУ | Спартыўная інжынерыя | 11,0 |

### Сярэднія спецыяльныя ўстановы (на базе 11 класаў)

| | | |
|---|---|---|
| Мінскі фінансава-эканамічны каледж (МФЭК) | Банкаўская справа | 9 |
| МФЭК | Бухгалтарскі ўлік, аналіз і кантроль | 8,9 |
| Мінскі дзяржаўны радыётэхнічны вышэйшы каледж | Праграмнае забеспячэнне інфармацыйных тэхналогій | 8,3 |
| Мінскі дзяржаўны авіяцыйны вышэйшы каледж | Тэхнічная эксплуатацыя паветраных суднаў і рухавікоў | 8,3 |
| Мінскі дзяржаўны педагагічны каледж №1 | Замежныя мовы (англійская) | 8 |
| Мінскі дзяржаўны архітэктурна-будаўнічы каледж | Эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве | 7,6 |

**Курсы валют НБ РБ**

| | 17.04 руб. | 24.04 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2012,00 | 2017,00 |
| Еўра | 2181,71 | 2212,77 |
| Злоты | 509,69 | 518,71 |
| Літ | 631,77 | 640,89 |
| Расійскі рубель | 64,50 | 64,85 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2000/2018 | 2020/2025 |

Маладзечна

**Цэны на рынку**

| Прадукты | Цана (руб.) 16.04 | 23.04 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 11900 | 11900 |
| Сасіскі, 1 кг | 4090 | 4090 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 780 | 800 |
| Грэчка, 1 кг | 1400 | 1400 |
| Цукар, 1 кг | 1140 | 1140 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 950 | 1100 |
| Алей, 1 л | 1650 | 1700 |
| Маянэз, 200 г | 450 | 470 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 800 | 800 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 650 | 650 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 900 | 1000 |
| Капуста, 1 кг | 1000 | 1000 |
| Морква, 1 кг | 900 | 1300 |
| Лімоны, 1 кг | 2300 | 2200 |
| Апельсіны, 1 кг | 1800 | 1850 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 700 | 700 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1800 | 1700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | 1500 |
| Бульба, 1 вядро | 3600 | 3600 |
| Яблыкі, 1 кг | 1100 | 1200 |

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Злодзей са стажам

**МАЛАДЗЕЧНА. У вяскоўца з Маркава выкралі матацыкл "ІЖ-Юпітэр-3" 1973 года выпуску.**

Злодзеям аказаўся 21-гадовы хлопец. Ён зламаў навясны замок і залез у гараж. Падазроны раней судзімы. Родам ён са Скавародкаў.

Ірына РАБУШКА.

# Рымдзюны, дзе жывуць літоўцы

**АСТРАВЕЦ. Вёска Рымдзюны – адна з нямногіх у Беларусі, дзе гавораць на літоўскай мове.**

Там адчуваеш сябе, як за мяжой: калі беларускую, украінскую, рускую і польскую мову можна зразумець – усе мовы славянскія, – то літоўская мова адносіцца да іншай групы моў. Але не ўсё так дрэнна для заезджага – беларускай і рускай мовай рымдзюнцы валодаюць не горш.

У Рымдзюнах жыве каля 500 чалавек. Нягледзячы на тое, што вёска невялікая, можна сказаць, што ў яе ёсць свой твар. Тут шмат такога, што адразу кідаецца ў вочы.

## Мова

Рымдзюны – вёска палігло-таў, і гэта бачна адразу. Літоўскую, рускую і беларускую мовы ведаюць усе. Сярэдняе пакаленне знаёмае з польскай, англійскай і нямецкай мовамі. Моладзь у школе вучыць адразу 4 мовы: беларускую, рускую, літоўскую і англійскую. У абедзвюх школах штогадова праходзіць тыдзень моў. У рамках тыдня праходзяць алімпіяды, віктарыны, конкурсы, звязаныя з веданнем кожнай мовы і культуры.

## Адукацыя і культура

У Рымдзюнах 2 школы. Адна з літоўскай, другая з беларускай мовамі навучання. Яшчэ ёсць цэнтр інфармацыі, культуры і адукацыі, куды ўваходзяць беларуская і літоўская школы і Дом культуры. Школы знаходзяцца пад адным дахам, толькі на розных паверхах: літоўская — на другім, беларуская – на першым. Цэнтр задумалі і пабудавалі як комплекс. Школьнікі, не выходзячы на вуліцу, могуць трапіць у інтэрнат, сталовую, вучэбныя класы, бібліятэку, спартыўную залу, Дом культуры.

## Дом культуры

Гэтая ўстанова самая новая ў Рымдзюнах. Яе ўзвялі ў сакавіку 2000 года. Тут вельмі прыгожая канцэртная зала на 250 месцаў, кафэ, бібліятэка, зала для ўрачыстасцяў, харэаграфічны клас, невялічкі краязнаўчы музей. Летась Рымдзюнскі Дом культуры прымаў рэгіянальны фестываль эстраднай песні "Адна зямля". З гэтага тыдня ў Доме культуры будзе працаваць дыскатэка.

У Доме культуры і школах працуюць педагогі з Літвы і з Беларусі. Сістэма адукацыі і адпачынку накіраваная на тое, каб лепшых вярнуць на працу да сябе ў Рымдзюны.

## Літоўская школа

Як сказаў дырэктар школы з літоўскай мовай навучання **Станіславас Будрайціс**, будзе няправільна назваць гэтую школу літоўскай. Яна – беларуская, бо знаходзіцца ў Беларусі, і тут вучацца грамадзяне Беларусі.

Будаўніцтва школ з літоўскай і беларускай мовамі навучання ў Рымдзюнах задумвалася на мяжы 80-90-х гадоў беларускім і літоўскім урадамі, як справа на парытэтных пачатках. Літва ў Беларусі школу пабудавала, у беларусаў – не атрымалася. Недабудаваны будынак школы стаць побач з цэнтрам да гэтай пары. Але школы атрымалася дзве: абедзьве размешчаныя ў літоўскім будынку. Беларусы дапамагаюць, як могуць: сёлета Астравецкі райвыканкам выдзеліў мільён рублёў на закупку спартыўнага інвентару. Выдаткі на камунальныя расходы ўзяў на сябе таксама беларускі бок.



Рымдзюнскі пчаляр Броніс Вайчуліс на сваім пчальніку. Разам з ім згадзілася сфатаграфавацца жонка Тарэса, нягледзячы на тое, што баіцца пчол.



Адзіны каваль у Рымдзюнах Ёнас Вайчуліс. Ён усё жыццё працаваў у мясцовым калгасе. Цяпер на пенсіі і адышоў ад спраў.



Малодшыя школьнікі літоўскай школы так упрыгожылі свой кабінет.



Мастацкі кіраўнік Рымдзюнскага Дома культуры Мікалай Дзмітрук. Яго гурток ігры на гітары – самы папулярны сярод школьнікаў. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Школьнікі

Літоўскія школьнікі вучацца па трыместрах. Школьныя калідоры прыгожа абсталяваны школьнымі работамі. Большасць была на тэму Валікадня. Ёсць многа фотаздымкаў, свой краязнаўчы музей з прадметамі літоўскага побыту, якія сабралі школьнікі. У школе 74 вучні і 20 настаўнікаў.

Большасць вучняў працягвае сваю вучобу ў Літве. І з цягам часу гэтая традыцыя толькі ўзмацняецца. Калі ў 1998 годзе з 7 выпускнікоў пяцёра засталіся ў Беларусі, то сёлета з 10 выпускнікоў 9 плануюць працягваць вучобу ў Літве. Яно і зразумела: туды і паступіць лягчэй, бо большасць навучальных устаноў прымае студэнтаў па конкурсе атэстатаў (у Літве не ведаюць пра ўступныя экзамены). Да таго, прадоўжыць адукацыю па-літоўску ў Беларусі можна толькі ў адной мінскай ВНУ.

За 7 гадоў працы школьнікі стварылі свой летапіс, дзе занеслі памятныя падзеі з жыцця школы і пазначаны кожны выпускнік. Таксама створаны цыкл школьных работ "Вядомыя людзі Рымдзюнаў". Навучэнцы сустрэліся, сфатаграфавалі і напісалі пра вяскоўцаў, якія вядомыя сваімі талентамі. У дырэктарскіх планах — давесці да канца краязнаўчую работу, якую распачалі школьнікі:

– Хочацца выдаць зборнік, які будзе расказваць пра наш край, – гаворыць Станіславас Будрайціс і трымае ў руках каляровую кніжачку. — Гэтая кніжка расказвае пра адно літоўскае мястэчка Дзевянішкю, якое мяжуе з нашым раёнам. Там ёсць каляровая карта раёна, нарысы пра гістарычныя помнікі і вядомых людзей. У мяне ўжо гатовая частка матэрыялу. Летам планую пабываць у Віленскіх архівах, там маркую знайсці цікавыя звесткі пра мінулае Рымдзюнаў.

Летась школьнікі пасадзілі 40 рабін. Тым самым ажыццявілі яшчэ адну ідэю дырэктара.

– Падчас аднаго прыезду ў літоўскую сталіцу побач з адной школай я ўбачыў алею рабін. Вельмі захацелася пасадзіць такую і ў нас, – успамінае Станіславас Будрайціс. – Тым больш, месца ёсць – лепш не прыдумаеш: узбярэжжа ракі Ашмянка. Сёлета паглядзім, колькі рабін прыжывецца. Засохшыя заменім і зробім сваімі сіламі для рымдзюнцаў зону адпачынку.

А 26 красавіка ў школе збяруцца прадстаўнікі Рымдзюнскіх школ, Гервяцкай СШ і Астравецкай СШ №2 на віктарыну "Усе сцягі Еўропы". Па тры старшакласнікі з кожнай школы павінны будуць па сцягу пазнаць краіну і назваць яе сталіцу. Тым часам у школе збяруцца дырэктары гэтых чатырох навучальных устаноў, якія абмяркуюць перспектывы супрацоўніцтва паміж сабой.

## Беларуская школа

Дырэктар беларускай школы **Людміла Дарафей** сказала, што ў будынку гэтай школы яны госці:

– Нягледзячы на тое, што школы знаходзяцца пад адным дахам, аднолькавая колькасць вучняў і настаўнікаў, сяброўства паміж дзецьмі з розных школ, у літоўскіх школах намнога лепшыя ўмовы, – не без добрай зайздрасці гаворыць Людміла Дарафей. — Літоўцы атрымліваюць дадатковыя грошы ад Літоўскага дэпартамента па адукацыі, у дадатак да агульнага фінансавання з боку Астравецкага раённага аддзела адукацыі.

Беларускія выпускнікі не вучацца ў ВНУ, бо ідуць на агульных умовах і не праходзяць па конкурсе. Платна не дазваляе вучыцца бацькоўскі бюджэт. Таму застаюцца ў сярэдніх спецыяльных навучальных установах ці ідуць на работу ў калгас.

Яшчэ адрозненні: літоўскія школьнікі адзначаюць свае нацыянальныя святы, беларусы – свае. У літоўскай школе дзеці харчуюцца бясплатна, а ў беларускай – за бацькоўскія грошы. Магчыма, таму беларускамоўныя бацькі сталі аддаваць сваіх дзяцей у літоўскую школу.

## Людзі

Нашым экскурсаводам быў старшыня Гервяцкай суполкі літоўцаў **Уладзімір Бублевіч**. Ён нарадзіўся і вырас у Рымдзюнах, цяпер выкладае фізвыхаванне ў школе з літоўскай мовай навучання.

Уладзімір расказаў пра вядомых людзей — выхадцаў з Рымдзюнаў. **Вітаўтас Пукштас** нарадзіўся тут і закончыў школу. Потым пераехаў у Літву і стаў вядомым бізнесменам у галіне турызму. Яго ведаюць і ў Еўропе. Фотаздымак Вітаўтаса Пукштуса захоўваецца ў школьным музеі. Бацькоўскую хату бізнесмен перадаў Гервяцкай суполцы літоўцаў, там з'явіцца музей.

Сустрэліся мы з адзіным кавалём у Рымдзюнах **Ёнасам Вайчулісам**. Ён усё жыццё працаваў у мясцовым калгасе кавалём. Цяпер на пенсіі і адышоў ад спраў. Шкадуе аб тым, што калгасы ў раёне развалiліся і няма каму перанаць кавальскую справу. У яго гады ў вёсцы было каля дзесятка кавалёў.

Брат Ёнаса **Броніс** – выдатны пчалавод. Мёд з яго пчальніка вядомы і ў Рымдзюнах, і ў Літве. У Літве жывуць дзеці Броніса і яго жонкі **Тарэсы**. Да бацькоў яны прыязджаюць штотыдзень.

Але пастаянна жыць у Беларусі не хочуць: у Літве ёсць добрая работа, дом, сям'я. Бацькава захапленне таксама пяройдзе праз мяжу. Ён зрабіў і падарыў сыну два вуллі. Пчол праз мяжу перавозіць забаронена, іх яму трэба будзе купіць у Літве.

Броніс і Тарэса таксама шкадуюць аб развале сельскай гаспадаркі. Мяркуюць, што гэта адбылося з-за няўдалага кіраўніцтва галіной.

У Літве людзі жывуць лепш. Асабліва ў сталіцы. А ў вёсках там таксама не надта добра, бо і там не заўсёды знойдзеш добрую работу. Калгасы там развалiліся ўжо даўно, а фермерскія гаспадаркі ёсць не заўсёды.

Вось такія літоўскія беларусы ці беларускія літоўцы жывуць у беларускай вёсцы з літоўскай назвай Рымдзюны. Уладзіміра Бублевіча ўсё больш цікавіць беларуская вёска з назвай Літва, што ў Маладзечанскім раёне. Ён вельмі марыць там пабываць і хоча знайсці літоўцаў. Каб разам будаваць сваю родную Беларусь.

**Юрый КАРПІЦКІ,**
**Сяргей МАЦЮШОЎ.**

# Людзі, якія адвярнуліся ад свету

**МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе выяўленая 71 кватэра, дзе, калі гаварыць сухой моваў, не захоўваюцца санітарныя і іншыя нормы пражывання грамадзян.**

Карацей, у Маладзечне, згодна з гарадской статыстыкай, больш за 7 дзесяткаў прытонаў. На мінулым тыдні работнікі міліцыі на чале са старшым участковым **Ігарам Шупенькам** разам з журналістамі паехалі ў чарговы рэйд па маладзечанскіх прытонах.

## Кватэра з павукамі

... Сям'я Г. у 80-х была даволі пасьпяховай. Ён працаваў на дзяржаўнай службе, яна таксама без работы не сядзела. Гадавалі дваіх дзяцей. З часам жонка "захварэла". Усе намаганні мужа спыніць жончына "захапленне" аказаліся дарэмнымі. Як вырас старэйшы сын, муж і жонка развяліся. Мужчына з'ехаў у іншую кватэру.

Суд пазбавіў яе бацькоўскіх правоў і на малодшае непаўналетняе дзіця. Цяпер дачка гэтай жанчыны жыве ў вёсцы ў свайго дзядзькі – роднага брата маці. Вельмі цяжка псіхалагічна сыну – ён пасля заканчэння вучобы ў ВНУ будзе служыць у міліцыі.

Прытон бачны адразу – на другім паверсе вылучаюцца брудныя вокны з даўно не фарбаванымі рамамі. Каб увайсці ў дом, трэба адчыніць металічныя дзверы з дамафонам. Ключоў ад дамафона ва ўладальніцы прытона няма, але гэта слабая абарона ад няпрошаных гасцей. Сябры Г. прыходзяць вечарам пад вокны прытона і равуць, што яны прыйшлі. Г. спускаецца да выхаду, націскае на кнопку, і дзверы адчыняюцца...

Зайшлі на другі паверх. Дзверы кватэры адкрыла маладая жанчына і сказала, што гаспадыні дома няма. 24-гадовая **Надзя** аказалася добра знаёмай Ігару Шупеньку:

– Адна з тых, хто па прытонах бадзяецца, – ціха сказаў нам.

– Прывітанне! – весела сказаў ён. – Што ты тут робіш? Можа, ужо перасялілася сюды? Чым парадуеш? Можа, на працу ўладкавалася?

Надзея моўчкі адкрыла дзверы і пайшла ўглыб пакою. Было бачна, што візіту міліцыянераў яна не ўзрадавалася.

– А дзе гаспадыня? – не даваў апомніцца старшы ўчастковы. – Ці даўно пайшла? Калі прыйдзе? О, а гэта хто яшчэ тут?



Сяргей Г. нідзе не працуе і амаль увесь час знаходзіцца дома. Але прыбраць кватэру, дзе жыве ён з жонкай і пенсіянерамі-інвалідамі, ніхто не можа.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

У пакоі сярод рыззя на ложку сядзела дзяўчына. У паўцемры яна выглядала нашмат старэй за свае 17 гадоў. Назвалася **Людай**, сказала, што з Мясаты. У горад прыехала тыдзень таму.

– І галава ў бацькоў не баліць, куды дзелася дачка, – гэта рэпліка міліцыянера, накіраваная ў наш адрас. – Паглядзіце, як яны жывуць.

Электрычнасць і ваду тут даўно адключылі за неўплату. Са столі ў калідоры звісалі павукі. Іх там многа, столь здаецца чорнай. І ўсюды смурод.

Зайшлі ў залу. На сцяне вісіць сціплы дыван, які быў папулярны гадоў 20 назад. Ад левага верхняга кута звісае метровы кусок шпалеры, які даўно патрэбна было б да гэтай сцяны прыклеіць. У секцыі, дзе звычайна стаяць сервізы, за шклом красуюцца бутэлькі з-пад віна і піва.

Бутэлькі ўсюды. Пустыя пластмасавыя паўтаралітровыя і некалькі шкляных паўлітровых ляжаць у куце залы.

– Самагонка – насцярожыўся ўчастковы. Адкаркаваў, панюхаў і прадэманстраваў астатнім. – Пачуцці мяне не падманулі.

На пытанне, што за гэта можа чакаць гаспадыню, Ігар Шупенька растлумачыў:

– За выраб самагону – штраф у 300 базавых велічынь, за захоўванне – у дзесяць разоў менш. Але ў дадзеным выпадку да гаспадыні нічога не "прышпіліш" – бутэлька ж пустая, жанчына адкажа, што знайшла яе на вуліцы і прынесла дадому. Паспрабуй дакажы, што гэты самагон выпілі ў кватэры.

Ігар Шупенька перадаў прывітанне гаспадыні кватэры, і мы пайшлі.

## Абуза для пенсіянераў

Паехалі на вуліцу Міру. Ігар Шупенька расказвае гісторыю другой сям'і. Тут жывуць чацвёра: гаспадар і гаспадыня — пенсіянеры, дачка гаспадыні і яе муж. Жывуць усе за кошт пенсій старых, за камунальныя паслугі плаціць. Выпіваюць тут прадстаўнікі сярэдняга пакалення, якія, зразумела, нідзе не працуюць. Бацькоўскіх праваў на непаўналетняга сына іх пазбавілі, ён знаходзіцца ў інтэрнаце. Сям'я атрымлівае дадатковы даход, бо пенсіянеры яшчэ працуюць. Поўнасцю сляпы 72-гадовы **Аляксандр М.** і яго жонка Ала, якая дрэнна бачыць, дома робяць дэталі, якія пастаўляе ім маладзечанскае прадпрыемства "Энва" Беларускага таварыства інвалідаў па зроку. Ала сказала нам, што **Валя** і яе муж **Сяргей** дапамагаюць толькі тады, калі есці надта захочуць...

Ігар Шупенька сустрэў Валянціну Г. пытаннямі аб здароўі. На пытанне, чаму яна нідзе не працуе, тая адказала:

– Хварэем.

Але, што за хвароба ў яе, Валянціна не адказала. Участковы ўзлаваўся:

– А якая хвароба замінае табе прыбраць у кватэры? Хутка Вялікдзень, а ў цябе глянь што? – ён правёў пальцам па падаконніку, які быў чорны ад пылу. Паглядзеў на белы след на дрэве, прадэманстраваў журналістам свой чорны палец і "прафілактычная размова" працягнулася.

Калі мы выходзілі, у кватэры пачалася сварка паміж сярэднім і старэйшым пакаленнямі. Мы падзяліліся сумненнямі з участковым за лёс старых. Каб калі іх не задушылі. Ігар Шупенька супакоіў:

– Стары хоць сляпы, але крэпкі. Чалавек савецкай закалкі. Бачылі ў яго пакоі партрэт Сталіна? Калі Аляксандр раззлуецца і пачне наводзіць парадак, у кватэры адразу цішыня стаіць.

## Жанчына-зязюля

Апошні прытон, дзе мы пабывалі, знаходзіўся непадалёку. Па сведчанні міліцыянераў, прытонаў у гэтым раёне горада больш за ўсё.

Уладальніца кватэры – **Таццяна А.** Участковы расказаў, што яна некалькі разоў судзімая. Трапляла за краты за крадзяжы. Апошні раз сядзела за распаўсюджванне венерычных захворванняў. Таццяну А. можна сустрэць ля магазіна №61, дзе яна выпрошвае ў прахожых грошы.

За камунальныя паслугі ў кватэры плаціць маці Таццяны. Яна ж выхоўвае дзяцей жанчыны-зязюлі, якая падкінула іх да маці і канчаткова забылася пра іх выхаванне. Старэйшая дачка выйшла замуж, малодшы сын у матчынай кватэры не з'яўляўся гадоў 5.

Кватэра Таццяны закрываецца навясным замком, як хлявы ў вёсках. На іншым немагчыма, дзвярная рама літаральна раскрышаная. Дзверы ў ванны пакой стаяць у калідоры. Замест шкла ў адной з іх – кардон. На сцяне і на падлозе ў калідоры – сляды крыві...

На пытанне, адкуль гэта ўсё, Таццяна заплакала:

– Не ведаю. Два тыдні дома не была. А за гэты час нехта з бамжоў выбіў дзверы ў кватэры, пабіў шкло ў дзвярах у залу. Крыві таксама раней не было. А дываны былі, але цяпер няма – нехта ўкраў.

Міліцыянер параіў Таццяне ўставіць металічныя ўваходныя дзверы, каб яе без дазволу не турбавалі розныя асацыяльныя элементы. А нам расказаў, што Таццяніны слёзы чуў ужо неадночы. І пасля зноў бачыў яе ля магазіна...

На дарозе назад у міліцыю Ігар Шупенька патлумачыў, што на яго памяці ўладальнікаў прытонаў яшчэ не выратоўвалі. Былыя знаёмыя зацягвалі зноў у сваё кола. Людзі кідалі работу і скатваліся назад.

## Трэба мяняць законы

Што рабіць з прытонамі і як пазбавіць гараджан, якія жывуць па суседству, ад галаўнога болю? Вось што гаворыць аб гэтай праблеме намеснік начальніка Маладзечанскага ГРАУС **Міхаіл Шут**:

— Праблема прытонаў – гэта праблема не толькі міліцыі, але і іншых дзяржаўных службаў. Летась работнікі міліцыі, водаканалізацыйнай, камунальнай гаспадаркі, прадстаўнікі газавай службы ў выніку правeрак выявілі ў горадзе 71 кватэру, якія ў народзе называюць прытонамі.

Уладальнікаў прытонаў накіроўваюць у лячэбна-працоўны прафілакторый і хоць на нейкі час пазбаўляюць маладзечанцаў небяспечнага суседства. Гарвыканкам вызначаў меры ўздзеяння на ўладальнікаў прытонаў і іх сем'і: ад складання пратаколаў да выселення. Траіх ужо выселілі. Але, на жаль, больш масавым выселенне зрабіць складана: ў асноўным кватэры замацаваныя за непаўналетнімі дзецьмі, якія жывуць у дамах-інтэрнатах ці ў сваякоў. Закон забараняе прадаць кватэру да паўналецця.

Вельмі цяжка змагацца з прыватызаванымі кватэрамі-прытонамі. Прыватная ўласнасць пры цяперашнім заканадаўстве – рэч святая. Максімум, што можна зрабіць з уладальнікам кватэры – гэта аштрафаваць за парушэнне грамадскага парадку ці накіраваць на прымусовае лячэнне ад алкагалізму.

Можа, барацьба з прытонамі была б больш эфектыўнай, каб змянілі заканадаўства – дазволілі б высяляць, напрыклад, за сістэматычнае парушэнне санітарных нормаў ці грамадскага парадку, нягледзячы на правы ўласнасці.

А так прытоны знікаюць тады, калі былых уладальнікаў высяляюць ці яны паміраюць. Тады ў кватэру засяляюцца нашчадкі ці кватэру прадаюць. Новыя гаспадары наводзяць парадак і спакой.

Падчас рэйду ў мяне часта ўзнікала думка: дзе справядлівасць, калі ёсць нармальныя гараджане, якія жывуць у інтэрнатах і маласямейках, плацяць своечасова за камунальныя паслугі і сочаць за парадкам, а ёсць алкаголікі, якія жывуць у 2-3 пакаёвых кватэрах, не плацяць за камунальныя паслугі, парушаюць спакой суседзяў і якіх выселіць амаль немагчыма.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



У гэтай кватэры няблага было б зрабіць рамонт.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.



На кухні ў маладзечанкі Наталлі Г.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

 



■ ЗДАРОВАЕ ХАРЧАВАННЕ

# Энергія зямлі і сонца

**Так устроена нашае жыццё, што мы пастаянна падвяргаем свой арганізм непамерным для яго выпрабаванням. Каб дапамагчы яму справіцца з імі, дыетолагі раяць піць фруктовыя і агародніннын сокі. Прапануем падрабную інфармацыю аб іх назначэнні і прымяненні.**

## Аб карысці сокаў

Асноўная каштоўнасць сокаў – у багатым і збалансаваным утрыманні ў іх біялагічна актыўных рэчываў: вітамінаў, арганічных кіслот, эфірнага алею, мінеральных элементаў.

У соках мінеральныя рэчывы знаходзяцца ў лёгка засваяльнай для арганізма форме: макраэлементы (калій, кальцый, фосфар, натрый, магній, крэмній, марганец) і мікраэлементы (жалеза, цынк, медзь, ёд), вітаміны – А, $B_1$, $B_2$, $B_3$, $B_6$, $B_{12}$, $B_{15}$, С, Е, К, Р, РР.

Сокі нясуць нам энергію, сілу і здароўе. Яны аздараўліваюць і танізуюць. Іх здольнасць ачышчаць арганізм і нейтралізаваць шкодные ўздзеянне атрутных прадуктаў абмену унікальная. Сокі ачышчаюць кроў, выводзяць шлакі з клетак, дапамагаюць абнаўленню і аздараўленню ўсіх тканак. Сістэматычнае спажыванне сокаў дапаможа перамагчы многія хваробы і павысіць імунітэт. Галоўнае – піць іх не ад выпадку да выпадку, а рэгулярна.

## Не вада, а яда

Спецыялісты сцвярджаюць, што большую карысць сокавая дыета прыносіць тым, хто жадае ачысціць арганізм, вярнуць працаздольнасць і бадзёрасць, папоўніць арганізм вітамінамі і мінеральнымі рэчывамі. Бо сокі – не вада. Фруктовыя і агародніннын сокі – гэта багатая крыніца глюкозы, сахарозы, фруктозы; у малой колькасці ў іх утрымліваюцца і тлушчы. 2 літры апельсінавага соку – гэта прыкладна 1000 калорый. Да таго ж сокі паляпшаюць апетыт. Але калі вы хочаце пахудзець з дапамогай сокаў, іх рэкамендуецца разводзіць мінеральнай вадой без газаў ці простай кіпячонай у прапорцыях 1:1, 1:2, 1:3.

## «Сокавыя дні»

Устроіць 5-10 разгрузачных "сокавых дзён" карысна заўсёды і ўсім. За некалькі дзён да гэтага не варта піць каву і алкагольныя напоі. Трэба выключыць з рацыёну вострае і тлустае. У час сокавай дыеты пажадана выпіваць 5-10 шклянак соку ў дзень, а калі цяжка – піце роўна столькі, колькі можаце выпіць.

Па завяршэнні разгрузачнага перыяду вяртанне да звычайнага рацыёну павінна быць плаўным: на працягу 3-4 дзён пасля дыеты трэба спажываць тушаную агародніну, кашы і супы. Вострыя, салёныя, мясныя стравы выключаюцца.



Сок можна выціснуць амаль з усёй садавіны і агародніны, якую прадаюць на калгасным рынку ў Маладзечне.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Аздараўляльныя сокі

Кожны сок мае сваю лекавую накіраванасць.

**Вінаградны сок** узнаўляе энергію, рэкамендуецца для вывядзення з арганізма мачавой кіслаты, растварэння камянёў у мачавым пузыры, зніжэння артэрыяльнага ціску, умацнення тонусу сардэчнай мышцы, пры парушэнні абмену рэчываў, хваробах нырак і печані.

**Яблычны сок** з мякаццю ўтрымлівае карысные рэчыва пекцін, рэкамендуецца пры страўнікавых і кішэчных інфекцыях, паляпшае саставу крыві, зніжае ўзровень халестэрыну, выкарыстоўваецца пры малакроўі. Яблык – самы міралюбівы фрукт, паколькі спалучаецца з усімі фруктамі і агароднінай.

**Сок ананаса** мае вельмі прыемны смак і водар, рэкамендуецца дзецям пасля перанесеных інфекцыйных захворванняў, але, каб пазбегнуць раздражненняў слізістай абалонкі страўніка, лепш развесці яго вадой ці зялёным чаем.

**Сок апельсіна** дзякуючы ўтрыманню эфірнага алею, фітанцыдаў (пачухых лятучых рэчываў) і арганічных кіслот валодае супрацьмікробнымі якасцямі. Да таго ж – гэта крыніца вітамінаў. Таму ён асабліва карысны ў перыяд распаўсюджвання інфекцыйных захворванняў (напрыклад, грыпу) і ў пасляаперацыйны перыяд. Сок танізуе і паляпшае абмен рэчываў. Пры захворваннях страўніка яго лепш разводзіць (1:1).

**Сок буракоў** вельмі карысны пры хваробах сэрца, печані, нырак, жанчынам у перыяд клімаксу. Ён паляпшае састаў крыві, выводзіць з арганізма металы і радыеактыўныя элементы, добра ачышчае арганізм, нармалізуе ціск. Перад спажываннем бурачнага соку лепш даць яму адстаяцца пры пакаёвай тэмпературы ці развесці іншымі сокамі або вадой.

**Грушавы сок** валодае антысептычнымі і абязбольваючымі якасцямі, бадзёрыць і танізуе, паляпшае састаў крыві, умацоўвае сценкі сасудаў. Яго раяць піць пры цукровым дыябеце.

**Сок морквы** ўзмацняе ахоўныя здольнасці арганізма, паляпшае знешні выгляд. Але калі перастарацца, твар набудзе жаўтушны колер. Сок дапамагае пры дызентэрыі, менінгіце, склерозе, малакроўі, туберкулёзе, рахіце.

**Лімонны сок** вельмі моцны, яго абавязкова трэба разводзіць (1 чайная лыжка на шклянку вады), часта яго п'юць з мёдам. Добра ачышчае арганізм ад шлакаў і з'яўляецца багатай крыніцай вітамінаў.

**Капусны сок** паляпшае апетыт, актывізуе работу ўнутранай сакрэцыі, стымулюе абнаўленне эпітэлію сценак страўніка і кішэчніка, валодае супрацьязвенным дзеяннем. Вітамін U згубна ўплывае на ракавыя клеткі, а біялагічна актыўныя рэчывы фітанцыды – на хваробатворныя мікробы, туберкулёзныя палачкі і стафілакокі.

**Бульбяны сок** валодае супрацьзапаленчым, раназагойным, мачагонным дзеяннем, нармалізуе кіслотнасць страўніка і артэрыяльны ціск.

Калі вы вырашылі прымаць аздараўляльныя сокі, параіцеся са спецыялістам. Што тычыцца змешвання сокаў, то ніякіх абмежаванняў няма, так што фантазіруйце і піце.

## Глядзіце пад ногі

Не менш каштоўныя сокі з траў і лісцяў. Напрыклад, бурачнік утрымлівае ў 2 разы больш мінералаў, у 64 разы – вітаміну С, у 750 разоў – караціну, чым сам плод.

Асабліва карысныя расліны цёмна-зялёнага колеру, насычаныя малекуламі хларафілу, якія ўзбагачаюць арганізм біяэнергіяй, стымулююць сардэчную дзейнасць, дабратворна ўплываюць на кровазварот і работу кішэчніка. Карысныя лісця люцэрны, грачыхі, чорных і чырвоных парэчак, вінаграду, абляпіхі, крапівы, крэссалаты, часночныя, шчаўе, пятрушка, падарожнік.

Важна памятаць, што гаючыя травы трэба шукаць у чыстым полі, падалей ад дарог.

## Каб праца не была дарэмнай

Старайцеся выбіраць мясцовыя фрукты і агародніну. У сезон выспявання яны валодаюць найлепшымі спажыўнымі і смакавымі якасцямі.

Піць сокі трэба адразу пасля прыгатавання. У іншым выпадку вельмі хутка адбудзецца акісленне – амаль поўная страта вітамінаў і разбурэнне няўстойлівых ферментаў.

Для таго, каб сокі лепш засвойваліся, піце іх на галодны страўнік (у час дыеты гэта правіла трэба выконваць абавязкова) за 15-30 мінут да яды і праз гадзіну-дзве пасля.

Не рэкамендуецца запіваць яду сокамі.

Піць сокі трэба не залпам, а маленькімі глыткамі.

Каб пазбегнуць страты энергетычнай каштоўнасці, сокавы кактэйль трэба рабіць не больш чым з 4-х складаемых, лепш з 2-3.

Падрыхтавала **Алена УРБАНОВІЧ.**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

# Якія вітаміны ўжываеце?



**Алег Рыжэвіч, кіраўнік фізвыхавання ў політэхнічным каледжы:**

— Ніякія. Добра і рэгулярна ем. Гэта звычка з дзяцінства. Калі вельмі хочацца есці, а блізка ежы няма, абы-што не ем. Стараюся адцягнуць увагу на работу.



**Алесь Капуцкі, інжынер:**

— Розныя. Часцей куплю ў аптэцы. Тымі, што ўтрымліваюцца ў фруктах і агародніне, арганізм не насыціш. Хаця яны лепшыя. Аптэчныя вітаміны ўжываю 3-4 разы на год. Эфект ёсць.



**Алена Квач, прадавец:**

— Я імі не карыстаюся. Раніцай п'ю марковыны сок. Ужываю шмат кефіра і ўвогуле малочных прадуктаў. Мяса не люблю. Вітамінам у аптэцы не давяраю. Чакаю, пакуль свежая садавіна і агародніна вырасце.



**Віктар Аляхновіч, дырэктар гандлёва-эканамічнага каледжа:**

– Не ўжываю. Арганізму дастаткова вітамінаў, якія ўтрымліваюцца ў ежы. Круглы год ужываю садавіну і агародніну. Летась чарніц шмат еў, каб зрок палепшыць. Вынік ёсць.



**Віктар Буткевіч, навучэнец політэхнічнага каледжа:**

— Вясной — з аптэкі. Летам — з градкі. "Жывыя" вітаміны больш карысныя. Напрыклад, шмат ем яблыкаў і ківі. У фруктах, што прадаюць цяпер, вітамінаў мала.

Падрыхтавала **Ірына РАБУШКА.**

 

# У кожнага свой боль

## Першыя дні

...Самае цяжкае ўражанне ад першых дзён у Астраўцы, якое не магу забыць і сёння: можна цэлы дзень прахадзіць па горадзе, і ніхто не дасць табе "добры дзень" – няма ніводнага знаёмага. І вось аднойчы (мы ўжо жылі тут пару месяцаў) муж вярнуўся з работы (працаваў ён у будаўнічай арганізацыі) абсалютна шчаслівы. Аказваецца, голад чалавечых зносін у гэты дзень ён наталіў спаўна: з Хойнік прыехала цэлая брыгада будаўнікоў, яго знаёмых і сяброў, на чале са сваім начальнікам Мікалаем Кавалёвым, і яны тут, у Астраўцы, будуць узводзіць жыллё для сваіх сем'яў. Ад гэтага паведамлення і я адчула нешта падобнае на глыток свежага паветра: нарэшце мы тут будзем не адны!

Хлопцы нашы працавалі, як шалёныя, як, напэўна, умеюць працаваць толькі палешукі, без выхадных і свят, па шаснаццаць гадзін у суткі. І ўжо да канца 1990 года першыя навасёлы засяліліся ў два 40-кватэрныя "чарнобыльскія" дамы, неўзабаве была пабудавана і "дваццатка". Сталі яшчэ падцягвацца нашы людзі: хто да радні, хто да сяброў. Сёння ў Астраўцы хайнічан ("чарнобыльцаў", як называюць нас мясцовыя, – мы ўжо звыкліся, нават самыя крыўдлівыя, якія з-за гэтай мянушкі першыя дні горка плакалі) даволі многа, каля ста сямей – можна сваё зямляцтва адкрываць.





Фота Уладзіміра БАЗАНА.





У Чарнобыльскай зоне засталося жыць няшмат людзей. Большасць з'ехала. Многія – на Астравеччыну. Але і ў тых, і ў іншых у сэрцы стаіць нясцерпны боль.

## Ці прыжыліся?

З таго часу, як мы сюды пераехалі, мінула 12 - 13 гадоў. Выраслі дзеці, якія яшчэ хадзілі ў дзіцячая садкі, – і ўжо водзяць туды сваіх дзяцей. Што б там хто ні казаў, але для іх ужо гэтыя мясціны – родныя. Калі некалі я на піку адной з чарговых чорных палос жыцця сказала напаўжартам сваёй дачцы, тады яшчэ школьніцы, што вось зараз збяромся і паедзем назад, у Хойнікі, яна мне адказала вельмі сур'ёзна: "Ты, калі хочаш, едзь. А я нікуды не паеду. Мая радзіма – тут". Сапраўды, калі мы пакідалі Хойнікі, ёй было толькі пяць гадоў, і ва ўспамінах у яе засталася толькі квітнеючы абрыкос ля нашай хаты на Паўночнай вуліцы ды кветачкі, браткі, што заўсёды цвілі каля ганка. Сын яшчэ час ад часу ўспамінае сябра па дзіцячаму садку, Сярожу Семчанку, з якім яны збіраліся аднаго дня ехаць у Гомель паступаць "вучыцца на шафёра". Але школа, першая настаўніца, першыя сапраўдныя сябры і галоўныя настаўнікі, паступленне ў ВНУ, вучоба, практыка – усё гэта ў іх звязана з Астраўцом.

Нас жа, дарослых, час ад часу, асабліва людзі новых, пытаюць з непрыхаванай цікаўнасцю: ці прыжыліся вы тут? І пытанне гэтае пры ўсёй сваёй прастаце раптам становіцца вельмі складаным. Як на яго адказаць? Вядома, калі меркаваць па таму, колькі сёння людзей вітаецца з намі на вуліцах, то, безумоўна, прыжыліся – знаёмых тут ужо куды больш, чым у Хойніках.

Калі мець на ўвазе жыццёвую ўладкаванасць, то тут у кожнага па-розным. Аляксандр Жыляк – паважаны ў раёне чалавек, кіраўнік салідная арганізацыі – дарожнага рамонтна-будаўнічага прадпрыемства. Тое ж самае можна сказаць пра Ірыну Тальчук, якая ў Хойніках працавала намеснікам начальніка вузла сувязі, –цяпер яна ўзначальвае раённы вузел паштовай сувязі, які па праву лічыцца адным з лепшых не толькі ў Гродзенскай вобласці, але і ў рэспубліцы. Акрамя таго, калегі даверылі ёй узначаліць раённы савет кіраўнікоў – абралі "дырэктарам над дырэктарамі", як жартуюць некаторыя. Ірына Эдуардаўна таксама другое скліканне запар з'яўляецца дэпутатам раённага Савета, прычым ад нашай, "чарнобыльскай" акругі, дзе найбольш пражывае яе землякоў, – згадзіцеся, гэта пра многае сведчыць.

Мікалай Кавалёў, які ў свой час вельмі многа зрабіў для Астравецкага раёна — дзякуючы яму асабіста і нашым будаўнікам тут пабудавана шмат жылля, аб'ектаў вытворчага і сацыяльна-культурнага прызначэння, — цяпер знаходзіцца на заслужаным адпачынку. А МПМК-158, будаўнічую арганізацыю, у якую ён у свой час удыхнуў другое жыццё, цяпер узначальвае таксама хайнічанін, Валерый Каржанок.

Тады, у пачатку 90-х, практычна ўсе, хто прыязджаў у Астравец, працавалі будаўнікамі, зараблялі сабе кватэры. Цяпер нашых землякоў дзе толькі не сустрэнеш: яны ахоўваюць дзяржаўную мяжу і грамадскі парадак, выхоўваюць дзяцей у садках і вучаць іх у школах, лечаць людзей у цэнтральнай раённай бальніцы і гатуюць хворым абеды, выпякаюць смачныя торты і навучаюць дзяцей музыцы, працуюць вадзіцелямі, бухгалтарамі, медсёстрамі, пашпартыстамі, прадаўцамі, механізатарамі, жывёлаводамі. Ёсць сярод іх і прадпрымальнікі. Але і сярод будаўнікоў нямала палешукоў, прычым выдатных спецыялістаў – Мікалай Бандарэнка, Мікалай Амельчанка, Леанід Клепчукоў, Валянцін Сацура і многія іншыя.

Намеснікам начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання па жывёлагадоўлі працуе Святлана Прыка. Той факт, што апошнім часам Астравецкі раён трывала трымаецца ў абласной тройцы лідэраў па вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі, а па выніках мінулага года па сярэднясутачных прывагах буйной рагатай жывёлы заняў чацвёртае месца ў рэспубліцы – і яе немалая заслуга.

Анатоль Каратквіч – памочнік ляснічага Спондаўскага лясніцтва. У гэтым годзе на спаборніцтвах па біятлону, якія праводзіла Міністэрства лясной гаспадаркі, ён заняў другое месца і прадстаўляў нашу рэспубліку на падобных спаборніцтвах у Швейцарыі, дзе таксама выступіў дастойна. Жонка яго, Вольга, — самабытны мастак, яна стварае абсалютна унікальныя карціны з футра, яе персанальныя выстаўкі ўжо неаднойчы праводзіліся ў Мінску.

Словам, сярод хайнічан, якія дзесяць ці крыху больш гадоў прыехалі на Астравеччыну, нямала людзей, якія змаглі і тут, на чужыне, прадэманстраваць свае шматлікія таленты, высокую кваліфікацыю і заслужыць аўтарытэт і павагу. А што тычыцца знакамітай палешуцкай працавітасці, то яна стала своеасаблівай "притчей во языцех". Пазбаўленыя якой-небудзь матэрыяльнай падтрымкі, "чарнобыльцы" хутка распрацавалі кожны вольны лапік зямлі і засадзілі яго гароднінай. Асабліва гаспадарлівыя набудавалі хлеўчыкоў і сталі трымаць курэй, свіней і нават коз. Астравеччына славіцца сваімі лясамі і іх дарункамі. То нашы людзі вельмі хутка па вартасці ацанілі гэтыя перавагі, і цяпер, здараецца, яны лепш ведаюць самыя запаветныя грыбовішчы, чым мясцовыя, не кажучы ўжо пра ягады: самыя працавітыя ва ўраджайны год зарабляюць на "ягадным промысле" добрую капейку.

Вядома, цяпер усім і ўсюды цяжка – і ў Хойніках, і ў Астраўцы: гарадок невялікі, прадпрыемстваў мала, і тыя перажываюць нялёгкія часы. Але людзі выжываюць – хто як можа. Так што з матэрыяльнага боку хайнічане жывуць хто горш, хто лепш, а хто і вельмі добра – у каго як атрымліваецца. І ў гэтым сэнсе дапытлівым суразмоўцам можна смела адказваць: так, прыжыліся.

## Душа просіцца на Палессе

А вось душа... З ёй цяжэй. Яна, нягледзячы на час, пражыты на новым месцы, просіцца дамоў, на Палессе. Ва ўсіх – акрамя хіба што дзяцей, пра якіх я казала і для якіх радзімай стала Астравеччына. Дарэчы, многія з іх, павырастаўшых, ужо пажаніліся з мясцовымі і гадуюць сваіх дзетак, а мае землякі парадніліся з тутэйшымі жыхарамі. І святкуюць з новай раднёй, акрамя праваслаўнага, і каталіцкі Вялікдзень (большасць жыхароў тут – католікі). І неяк прыміраюцца са сваім новым статусам, хоць і разумеюць, што ніколі нам не стаць "сваімі сярод чужых".

А цяжэй за ўсё старым – такім, як мае бацькі. У 1986 годзе яны былі выселены з вёскі Уласы ў Рагачоўскі раён, затым праз нейкі час прыехалі назад, у Хойнікі, у Глінішчы. Калі маці моцна захварэла, я забрала іх да сябе, на Астравеччыну. Тут у іх свая хаціна ў вёсцы, грады, невялікая ўжо – сілы на большае не стае – гаспадарка. Здаецца, ёсць усё, каб пачуваць сябе гаспадарамі ў сваім сялішчы. Але бацька, калі чаго заслуецца, заўсёды мяне ўпікае: "Вось каб ты мяне сюды не звезла, я б і сёння жыў сярод сваіх людзей...". І я сябе ўвесь час адчуваю ў нечым вінаватай перад імі, хоць і разумею, што, калі б яны засталіся там, пачуццё віны было б яшчэ мацнейшым.

Ці Аляксей Андрэевіч Аляксеенка са сваёй жонкай Марыяй Мацвееўнай – яны таксама прыехалі сюды ўслед за дзедавай дачкой, ды маладыя неўзабаве падаліся назад, на Гомельшчыну, а яны засталіся тут і цяпер бавяць час у змаганні са шматлікімі хваробамі і самоце. Мацвееўна асабліва тужыць перад Радуніцай – у Хойніках пахаваны яе сын, ён маладым разбіўся на матацыкле. Калі была дужэйшай, жанчына кожны год ездзіла да яго на магілу, а цяпер вось хваробы не пускаюць. А сэрца баліць, смыліць...

Баліць сэрца – па родных мясцінах, па дарагіх магілах, па блізкіх людзях, з якімі калісь жылі побач, а цяпер давядзецца бачыцца раз у год – і ва ўсіх астатніх.

У каго гэты боль становіцца нясцерпным ды яшчэ прымнажаецца нейкай бытавой неўладкаванасцю, той не вытрымлівае — збірае рэчы і едзе назад ці куды ў іншыя мясціны бліжэй да радзімы – такія сярод тых, хто некалі прыехаў сюды за лепшай доляй, таксама нямала.

У кожнага з нас – свой лёс. І свой сардэчны боль. І нам з ім жыць, спаталяючы яго ці лекамі, ці ўспамінамі, ці работай, ці рэдкімі спатканнямі з радзімай – каму што дапамагае.

**Ніна РЫБІК,**
**член Саюза журналістаў, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, былая супрацоўніца «Ленінскага сцяга», галоўны рэдактар раённай газеты «Астравецкая праўда».**

**Зусім стаміўшыся ад праблем, і, мабыць, спрабуючы ад іх схавацца, я вырашыў пабываць у Жыровічах. Не адзін раз чуў аб гэтым манастыры, меў нават іконку-каляндарык з адлюстраваннем святой Жыровіцкай іконы і часта думаў аб наведванні сабора. Аднак усё нешта перашкаджала, і намер паступова забываўся. Хаця потым ідэя паездкі ўзнікала зноў, але зноў і адкладвалася. І вось вясеннія дні абудзілі жаданне наведаць буйнейшы праваслаўны манастыр Беларусі.**


На стаянцы ля манастыра з кожным годам усё болей транспарту.
Фота IREX/ProMedia.


Убогія ля манастыра ў Жыровічах – лепшыя інфарматары для тых, у каго шмат пытанняў: дзе, што, калі?
Фота IREX/ProMedia.

# Дзень у Жыровіцкім манастыры

У сваім намеры я адзінокім не быў – і мы адбылі з Маладзечна. Наш шлях адлегласцю ў 240 кіламетраў пралёг праз Валожын у бок Ільі, Ліды, Дзятлава і Слоніма. Нас, хутчэй паломнікаў, чым турыстаў, суправаджала экскурсавод Маладзечанскага бюро падарожжаў і экскурсій. Дзякуючы ёй мы шмат даведаліся аб гісторыі і культуры роднага краю, аб тым, што ў Валожыне – самая старая драўляная царква ў Беларусі, што ў Груздаўскай царкве ёсць свая святая цудатворная ікона, што Бакштаў у Беларусі – чацвёра, і адкуль паходзіць назва старажытнага нацыянальнага напітку (хаця рэцэпт і не быў названы), і шмат іншага.

...Амаль у 10 гадзін мы ўжо стаялі на ранішняй службе ў галоўным саборы Свята-Успенскага манастыра. І тут шляхі прыбыўшых разышліся – хтосьці пайшоў ставіць свечкі, хтосьці аддаваў царкоўныя запіскі аб здароўі і за памін душы, некаторыя накіраваліся да споведзі. Вялікі сабор быў не поўны, у ім было ціха, тое, што адбывалася ў алтара, было бачна здалёк.

Я ж таксама паставіў свечкі, аддаў запіскі аб здароўі родных і блізкіх і за памін душы і накіраваўся ў левую частку сабора на споведзь. Жадаючых паспавядацца было шмат, адпускалі грахі сем святароў. Заняўшы чаргу да аднаго з бацюшак, я пастараўся пацíху агледзецца. Ішла служба, і на мяне яна ўздзейнічала нейкім супакаеннем. Цудоўна, у некалькі галасоў спяваў хор, які складаўся ў асноўным з семінарыстаў. Спавяданне адбывалася не хутка, айцы падоўгу выслухоўвалі кожнага, размаўлялі са спаведнікамі і толькі потым адпускалі грахі. На вачах некаторых жанчын пасля споведзі былі слёзы. Міжволі прызадумаўся і сам: аб сваім жыцці і сваіх грахах, пакорна прасіў даравання ва ўсіх тых, каго пакрыўдзіў. Аднак размова са святаром пайшла інакш, чым я меркаваў. На ўсе мае пакаянні ва ўчыненым бацюшка прасіў быць больш канкрэтным, удакладняў, ці хаджу я ў царкву рэгулярна, ці пашчуся і як наконт грахоў спажывання алкаголю, табаку і пераядання, памяркоўнасці ва ўсім. Пасля споведзі мы выстраіліся да святой прычасці. Прычашчала трое святароў, і нягледзячы на тое, што жадаючых было шмат, штурханіны не было. Споведзь у сабо-ры бясплатная, свечкі каштавалі ад 200 рублёў і больш, царкоўныя запіскі — ад 500 рублёў за разовую і да 4000 рублёў за шматдзённую малітву.

Пасля заканчэння службы ў 13 гадзін мы выйшлі з сабора. Праграмай нашага знаходжання ў Жыровічах яшчэ прадугледжвалася экскурсія па манастыры і наведванне асвечаных крыніц. Каб хутчэй набраць святой вады (на стаянцы было 8 аўтобусаў), экскурсавод прапанавала адразу пасля службы ехаць да купальняў за вадой, а пасля вярнуцца на аўтобусе назад. Так было і зроблена. Напор вады з крыніцы не вельмі вялікі, і каб напоўніць некалькі бутылёў, а то і бітонаў на ўсіх жадаючых, патрэбны час. Але нам пашанцавала, мы першымі прыбылі да крыніцы і хутка напоўнілі свае ёмістасці. Дарэчы, у манастырскіх лаўках вада "Жировицкий источник" з асвечанай артэзіянскай свідравіны ёсць у продажы: 2-літровая бутэлька каштуе 1,5 тысячы рублёў.



Каб напоўніць святой вадой усе ёмістасці паломнікаў і проста экскурсантаў – патрэбны час.
Фота IREX/ProMedia.


Лучнасць са светам – тэлефон-аўтамат.
Фота IREX/ProMedia.

**Жыровіцкая ікона з'яўляецца святой і для каталікоў, і яе копія знаходзіцца ў касцёле Святога Андрэя ў Слоніме**

Ваду трэба піць з верай і малітвай. Зафіксаваныя неаднаразовыя выпадкі вылечванняў розных хвароб, асабліва дапамагае ад захворванняў вачэй.

Набраўшы вады, усе накіраваліся да купальняў – яны размешчаны тут жа побач. Летам задзейнічаны нядаўна адбудаваныя раздзельныя купальні – мужчынская і жаночая, пакуль жа працавала маленькая агульная купальня. Вада з серавадародам, таму некалькі цемнаватая, вакол сляды ад свечак. Вельмі холадна, у спякотны дзень пры тэмпературы паветра 30 градусаў вада прагравaецца толькі да 4 градусаў. Жанчыны, што стаялі наперадзе, нас – траіх мужчын – прапусцілі, і мы пайшлі раздзявацца. Купальня – зруб з бярвенняў, пакрыты марылкай, даху няма. Раздзяваешся хутка, яшчэ хутчэй па шырокіх прыступках з дошак уваходзіш у ваду. Глыбіня – па грудзі, вельмі холадна.

Тры разы хрысцішся і акунаешся, а потым куляй назад адзявацца. Выціраццa і сушыцца няма калі, спяшаешся, каб даць увайсці іншым. Трусы ці сарочка, у якой акуналіся, як і святая вада, валодаюць гаючымі якасцямі, пры немачы іх трэба надзяваць і насіць.

Пасля купальняў і папіўшы вады з крыніц, мы накіраваліся ў манастыр на экскурсію, якую па звычаю праводзіць хтосьці з семінарыстаў. Чакалі мы яго на маленькай саборнай плошчы, па якой паслушнікі насілі ваду, хтосьці грэўся на сонейку на лавачцы ў скверыку, дзе расце бэз (вясной там, вядома, вельмі добра). Хтосьці пайшоў за пакупкамі ў царкоўныя і іконныя лаўкі. Кардонная іконка Жыровіцкай Божай маці каштуе 1,5 тысячы рублёў, ёсць у продажы і іконы ў дарагіх акладах па 15-25 тысяч рублёў і больш. Літровая бутэлька "Кагора" пацягнула 6 тысяч на 10.

Аднак прыбыў слухач III курса духоўнай семінарыі, які і павёў нас аглядаць славутасці манастыра. Пачалі з галоўнага Свята-Успенскага сабора, праслухалі шматвекавую гісторыю манастырскіх цэркваў. Нам пры іх аглядзе не перашкаджалі іншыя групы турыстаў, бо ў іх ужо экскурсія закончылася, і яны адбылі да купальняў і крыніц. Таму мы хадзілі свабодна і ў поўнай цішыні. Даведаліся, што храм за 510-гадовую гісторыю і гарэў, і разбураўся, не адзін раз перабудоўваўся, свой сучасны выгляд набыў у другой палове XIX стагоддзя. Заснаваны ж ён быў на месцы з'яўлення цудатворнай школы Божай маці. У пачатку XVII стагоддзя з-за фінансавых цяжкасцей сваіх гаспадароў-баяраў манастыр перайшоў пад частковы кантроль іудзееў, а затым – пратэстантаў. Менавіта таму Жыровіцкая ікона з'яўляецца святой і для каталікоў, і яе копія знаходзіцца ў касцёле Святога Андрэя ў Слоніме. Жыровіцкі манастыр адным часам быў адным з багацейшых ў тагачаснай Рэчы Паспалітай, а ў 1730 годзе папам Рымскім цудатворная ікона была каранаваная. У 40-я гады манастыр не быў пашкоджаны, хоць артылерыстам і лётчыкам быў дадзены загад страляць па жыровіцкіх храмах. У 60-70 гады татальнай атэізацыі Беларусі, калі хуткімі тэмпамі знішчаліся ці пераабсталёўваліся ў іншыя памяшканні храмы, Жыровіцкі аказаўся адзіным дзеючым манастыром у краіне. А цяпер ён стаў цэнтрам праваслаўя на Беларусі. І калі тады было некалькі манахаў, то цяпер 40 чалавек у пастаяннай працы і малітвах пражываюць у манастыры. Яму належыць 154 гектары зямлі, 5 аўтамашын, 8 трактароў, 1 камбайн, свае фермы, пчаліная пасека і пякарня. У духоўнай семінарыі 250 семінарыстаў, 5-гадовы курс навучання бясплатныя, выплачваецца сімвалічная стыпендыя – 1 долар у месяц. Канікулы ў слухачоў – 1 месяц летам і па 1 тыдні на велікодныя і калядныя святы. Студэнты – не манахі і не цураюцца мірскога жыцця, яны вывучаюць 32 прадметы, некалькі моў, у меру могуць выпіць і віна, грахом з'яўляецца курэнне, у пакоях стаяць тэлевізары. Калі жэняцца, то атрымліваюць сан, пры разводзе сан страчваюць. Выдатнікі могуць працягваць навучанне тут жа ў духоўнай акадэміі яшчэ 3 гады. Стажыроўкі праходзяць у Сергіевым Пасадзе, Маскве, Грэцыі.

**Тры разы хрысцішся і акунаешся, а потым куляй назад адзявацца. Трусы ці сарочка, у якой акуналіся, як і святая вада, валодаюць гаючымі якасцямі, пры немачы іх трэба надзяваць і насіць.**

20-гадовы (на выгляд) семінарыст, які праводзіў экскурсію, запомніўся нейкай пастаянна зыходзячай ад яго шчырай любоўю да гэтага месца і да ўсяго, што тут адбывалася. Гэта адчувалася ва ўсім, што б ён ні рабіў – як спакойна браў ключы і адчыняў для нас дзверы закрытых на зіму неацепленых цэркваў, калі паведамляў, што ікона ў алтара ў саборы – гэта копія і павёў як да самой цудатворнай іконы, як тлумачыў, што і як каля іконы рабіць, нават калі ўсміхаўся на некаторыя пытанні дзяўчат з групы пра суровае жыццё семінарыстаў і нават калі настаўляў нас, як трэба правільна, не на публіку хрысціцца ў царкве – ва ўсім ішла ад яго спакойная любоў. І за гэтую шчырасць усе мы яму былі надзвычай удзячныя.

Аднак нашае наведванне манастыра закончылася, і мы паехалі дадому. Усхваляваныя, усе абменьваліся ўражаннямі, было бачна, што ўсім спадабалася. Наведванне Жыровіцкага манастыра надоўга запомніцца асобым светам і любоўю, якія ідуць ад гэтых месцаў, радасцю і спакоем.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

■ КАРТАЧНЫЯ ГУЛЬНІ

# Дурань – азартная гульня

**МАЛАДЗЕЧНА. 17 красавіка ў брыдж-клубе "Папараць" прайшоў чэмпіянат горада па падкідным дурні.**

Арганізатары чакалі гасцей з Вілейкі, Мядзела і Валожына, але яны чамусьці не прыехалі. Затое маладзечанскія карцёжнікі па-сапраўдным адвялі душу.

Чэмпіянат пачаўся з 30-хвілінным спазненнем, у 17.30. Таму, жонкі, не злуйцеся, што ўдзельнікі чэмпіянату позна прыйшлі дадому – чэмпіянат скончыўся а пачатку 11-й гадзіны ночы.

Удзельнічалі 22 чалавекі. Толькі мужчыны. Хаця яны спадзяваліся, што павесяць "пагоны" аўтару гэтых радкоў, але я ад гульні адмовілася. Гулялі 9 тураў па 3 партыі ў кожным. Кожны стараўся надавіць на саперніка псіхалагічна. Усе гульцы па-сур'ёзным, з адчуваннем сваёй перавагі, глядзелі на саперніка. Адным словам – "стратэгі". Падчас перакураў абмяркоўвалі вынікі сваёй гульні ў апошніх турах. Нехта злаваўся на хваробу, з-за якой шумела ў галаве. Іншым не падабаліся месцы, дзе сядзелі, з-за якіх не шанцуе. Хтосьці гаварыў аб малой практыцы і дрэнных "трэнерах".

Пасля пятага тура мужчыны расхваляваліся. Вызначыліся моцныя гульцы: бацька і сын **Уладзімір і Аляксандр Бяловы, Рыгор Бурэц, Аляксандры Голуб, Мартынаў і Лавор**. Канчатковы вынік чэмпіянату стаў нечаканым: Аляксандр Бялоў і Рыгор Бурэц, якія лідзіравалі ў чэмпіянаце, саступілі ў апошнім туры і выпусцілі перамогу.

Першым стаў **Аляксандр Карачун** (18 ачкоў), другім – Аляксандр Голуб (17,5), трэцяе месца падзялілі Рыгор Бурэц і **Віктар Піскун** – па 16,5. Лепшыя гульцы атрымалі па 30, 20 і 5 тысяч рублёў адпаведна.

Гаворым з пераможцамі і прызёрамі.

Работнік ААТ "Спецбуд", чэмпіён Аляксандр Карачун:

– Першыя 2 партыі не шанцавала. Потым змяніў месца – пайшла гульня. Лічу, калі карта ідзе, тады і дурню шанцуе. Увогуле, ніколі не быў апошнім. Але больш падабаюцца шахматы і прэферанс.

Сярэбраны прызёр Аляксандр Голуб, які працуе на аўтабазе райспажыўтаварыства, падзякаваў за свой поспех практыцы: нездарма на рабоце кожны дзень у абедзенны перапынак у дурня гуляюць. Анастазіёлаг з Маладзечанскага раддома Рыгор Бурэц лічыць, што яму не пашанцавала ў апошнім туры. Затое летась узяў першае месца ў парным турніры. Рабочы АТ "Васко" Віктар Піскун увогуле аказаўся брыджыстам:

– У дурня гуляю толькі 3 гады, але атрымліваецца так, што кожны раз трапляю ў прызёры. Сёння спачатку гульня не ішла, а потым стала лепш.

18 красавіка прайшоў парны турнір. Удзельнічалі 5 пар. Перамаглі Аляксандр Карачун і **Яўген Гардзей**.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**


17 красавіка, брыдж-клуб "Папараць", чэмпіянат па падкідным дурні. **Уладзімір Бялоў і сярэбраны** прызёр Аляксандр **Голуб.** Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ.

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

## Дынамаўскі "каток"

18 красавіка. 1700 гледачоў. Суддзя Знайдзінскі.

Дынама (Мінск) – Маладзечна-2000 4:0

Галы: Паўлючак (10), Здацінаў (22), М. Цыгалка (41, 58)

Склад: Міхайлаў – Дрозд (Маляўка, 32), Косак, Альховік, Сысой – Макрыцкі, Якубоўскі (Дараховіч, 46), Кабельскі (Веташкін, 82), Пазняк – Альхавік, Кухлей

Згодна з агульнапрынятай тэндэнцыяй, у расстаноўцы амплуа раздзелены працяжнікамі, а пазіцыі даюцца, калі глядзець з варот, справа налева і (у цэнтры) знізу ўверх.

Паражэнне стала вынікам памылак у абароне. Пасля перапынку мінчане крыху збавілі абароты, ды і нашы футбалісты, атрымаўшы "накачку" ад **Вячаслава Акшаева**, сталі дзейнічаць больш сканцэнтравана.

Белшына – БАТЭ 0:0, Гомель – Дарыда 1:0, Тарпеда (Ж) – Днепр-Трансмаш 2:0, Шахцёр – Тарпеда-СКА 0:0, Нафтан – Славія 1:0, Лакаматыў – Нёман 1:1, Зорка-ВА-БДУ – Дынама (Бр) 0:2.

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

## Аптымістычны старт

19 красавіка. 2500 гледачоў. Суддзя Пырэеў.

Вертыкаль (Калінкавічы) – Смаргонь 0:1

Гол: Грабаздзін (25)

Склад: Шляхавой – Курак, Судзін, Іваноў, Кашкар – Тарасаў (Мазалоўскі, 69), Дзігілевіч, Карасёў, Грабаздзін, Кукалевіч (Дукса, 85) – Валовік (Трындзюк, 90)

Перамогу прынёс гол Грабаздзіна, забіты з цэнтра штрафной пасля паса Карасёва.

9 футбалістаў упершыню згулялі за "Смаргонь" – рэкорд для аднаго матча.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ

# Заяўка «Маладзечна-2000»

**Прапануем афіцыйную заяўку мацнейшага клуба рэгіёну на сезон 2003 года.**

Генеральны дырэктар Алег Французаў, выканаўчы дырэктар Пётр Альшэўскі, начальнік каманды Ігар Старавойтаў.

Галоўны трэнер Вячаслаў Акшаеў, старшы трэнер Ігар Гасюта, трэнер Аляксандр Кісцень, трэнер варатароў Андрэй Любчанка.

Урач Уладзімір Обухаў, масажыст Уладзімір Рабушка, адміністратар Алег Дзям'янаў, афіцэр па бяспецы Віктар Воўкаў.

У апошні тыдзень каманда не далічылася Азаронка і Смірных. Першы будзе выступаць за брэсцкае "Дынама", а другі, па словах Вячаслава Акшаева, раздумвае над тым, каб завяршыць кар'еру. Для яго гэта больш прывабна, чым працаваць за невялічкія грошы ў Маладзечне. Вернуты ў склад Мятліцкі.

Толькі 6 клубаў вышэйшай лігі маюць свой сайт у Інтэрнеце. Маладзечанскі www.fcmolodechno2000.com ці не лепшы сярод усіх, у чым заслуга яго адміністратара Дзмітрыя Караля. Перад пачаткам чэмпіянату сайт змяніў сваё аблічча, таксама стала больш карыснай інфармацыі.

Матчы 1-га тура перанесены на 22-га чэрвеня (маладзечанцы згуляюць у Барысаве), а матчы 11-га тура пасунуты з 25-га чэрвеня на 26-га (прымаюць мазыран).

### Варатары

| | | |
|---|---|---|
| Віталь Сцепановіч | 1976 | 26/-54 |
| Сяргей Міхайлаў | 1978 | 10/-17 |

### Абаронцы

| | | |
|---|---|---|
| Арцём Косак | 1977 | 70/2 |
| Аляксандр Сысой | 1979 | 45/2 |
| Сяргей Дрозд | 1983 | 22/0 |
| Аляксей Крывіцкі | 1982 | 0/0 |

### Паўабаронцы

| | | |
|---|---|---|
| Аляксей Пазняк | 1981 | 87/4 |
| Віктар Маляўка | 1976 | 85/1 |
| Дзмітрый Кабельскі | 1979 | 63/2 |
| Сяргей Дараховіч | 1979 | 43/3 |
| Андрэй Лявончык | 1982 | 18/0 |
| Дзяніс Мятліцкі | 1982 | 11/1 |
| Аляксандр Альховік | 1982 | 4/0 |
| Максім Веташкін | 1982 | 0/0 |
| Антон Тураў | 1983 | 0/0 |
| Канстанцін Якубоўскі | 1984 | 0/0 |
| Сяргей Лабанаў | 1984 | 0/0 |

### Нападаючыя

| | | |
|---|---|---|
| Віталь Макрыцкі | 1980 | 64/6 |
| Сяргей Сідарэнка | 1977 | 37/7 |
| Максім Альхавік (Рас.) | 1973 | 17/3 |
| Уладзімір Кухлей | 1982 | 4/1 |
| Максім Галенка (Рас.) | 1985 | 0/0 |

Капітан – Кабельскі. Яго памочнікі – Дараховіч і Альхавік.

Даецца статыстыка (матчы/галы) выступленняў у вышэйшай лізе за ўсе каманды і лепшае спартыўнае дасягненне ў кар'еры па версіі "РГ" (месца-каманда-год). За розныя юнацкія зборныя краіны ў розны час выступалі Косак, Маляўка, Пазняк, Сысой, Тураў.

### Дубль

Варатары Аляксандр Вайда (1984, 7/-21 і 1/0), Ільля Братчанка (Расія, 1985, смаленскае ВАР), абаронцы Юрый Марцінкевіч (1985, 1/0), Аляксей Аўчыннікаў (Расія, 1985, смаленскае ВАР), Павел Ляпета (1986, 9/0), Руслан Рагуновіч (1986, маладзечанская ДЮСШ), паўабаронцы Алег Чатырка (1983, маладзечанская ДЮСШ), Мікіта Мішурны (1985, віцебская СДЮШАР-5), Канстанцін Мальцаў (Расія, 1985, смаленскае ВАР), Дзмітрый Касцюк (1986, 16/0), Сяргей Лужынскі (1986, 1/0), Юрый Леановіч (1986, маладзечанская ДЮСШ), нападаючыя Аляксандр Харэцкі (1984, 33/3), Павел Мазура (1984, 4/0), Юрый Сергеевіч (1986, 1/0), Алег Гейбо (1986, маладзечанская ДЮСШ).

Даецца статыстыка выступленняў за дубль "Маладзечна-2000", для навічкоў – папярэдняя каманда. З дубліруючым складам працуюць трэнеры Вячаслаў Мішуткін (прывёз сваіх выхаванцаў са Смаленску) і Сяргей Карыцька (вядзе 1986 г.н. у маладзечанскай ДЮСШ).

**Падрыхтаваў Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ ФУТБОЛ, ДУБЛЬ

17 красавіка. Дынама (Мінск) – Маладзечна-2000 3:0.

■ КОННЫ СПОРТ

МАЛАДЗЕЧНА. Выхаванцы раённай ДЮСШ (Палачаны) ездзілі ў Гомель на Кубак краіны па канкуры. Найлепш выступіла **Алена Вальчык**.

На кані Вікторыі яна першынствавала ў выпрабаванні "На максімум балаў" (вышыня перашкодаў 140 см), а ў яшчэ адным старце заняла 3 месца.

■ ЮНАЦКІ ФУТБОЛ

МАЛАДЗЕЧНА. Прайшоў традыцыйны абласны судзейскі семінар, і разам з ім – турнір юнакоў 1987 г.н. У кругавым турніры на полі СШ№5 месцы размеркаваліся так: 1. ДЮСШ (Баранавічы) – 7 ачкоў. 2. ДЮСШ (Маладзечна, трэнер **Валерый Вятроў**) – 4. 3. ДЮСШ "Нафтан" (Наваполацк) – 3. 4. ДЮСШ (Смаргонь, трэнер **Віктар Страшынскі**) – 3.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ТУРЫЗМ

МАЛАДЗЕЧНА. У турклубе "Пілігрым" прайшло завочнае першынство сярод паходаў за сезон 2002 года.

З 7 груп 5 хадзілі на веласіпедах і 2 – на байдарках. Усе паходы праведзеныя ў межах краіны. У заяўцы на першынство не было ніводнага пешага паходу, які патрабуе найменш выдаткаў.

Першае і трэцяе месцы занялі паходы пад кіраўніцтвам **Сяргея Бялкова**. Другое месца заняла група школьнікаў з СШ №7, якія пад кіраўніцтвам Ірыны Шаврнёвай прайшлі па замках Беларусі.

**Іван СІДАРОВІЧ.**

■ НА ГЭТЫМ ТЫДНІ ГУЛЯЮЦЬ

**25-26 красавіка. Маладзечна, гарадошны стадыён**

Заключныя дні 2-га этапа Кубка Еўропы (турнір памяці ахвяраў Чарнобыля) па гарадошным спорце

Пятніца: з 10-00 камандныя спаборніцтвы

Субота: 9-00 – фінал асабістага турніру, 11-00 – фінал каманднага турніру, 15-00 – закрыццё

**25 красавіка.**
**Беразінскае. 17-00**

Маладзечна-2000 (дубль) – Белшына (Бабруйск, дубль)

+1=0-3 6-10. Летась 0:2 дома і 1:2 (Альховік) на выездзе

**26 красавіка. Маладзечна. Гарадскі стадыён. 17-00**

Маладзечна-2000 – Белшына (Бабруйск)

+3=5-9 23-26. Летась 2:3 (Макрыцкі, Акуліч) дома і 2:3 (Дараховіч – 2) на выездзе

Кошт білета 1000 рублёў (дзіцячы – 500 рублёў)

**27 красавіка.**
**Смаргонь. 15-00**

Смаргонь – Дынама-Юні (Мінск)

+2=0-0 3-1. Летась 1:0 (Шамшорык) на выездзе і 2:1 (Шамшорык, Налівайка) дома

**27 красавіка. Чысць. 16-00**

Забудова – Палессе (Мазырскі раён)

+2=2-0 9-5. Летась 2:2 (Савіцкі, Відрук) дома і 1:1 (Міхейчык) на выездзе

